**✦ БЕЛАРУСЬ РАСЕЙСКАЯ. Спроба палітычнага прагнозу. ✦✦✦ ЧУЖЫ Ў РОДНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Лёс жаўнера польскага войска. ✦✦✦ У БУФЭЦЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА. Зь менскіх уражаньняў. ✦✦✦ ХРЫСТОС СТВАРЫЎ АДЗІНУЮ ЦАРКВУ. Аргумэнты вуніяцкага сьвятара. ✦✦✦ ПОМНІК З КУЛЯВЫМІ ПРАСТРЭЛІНАМІ. Гісторыя паўстанца 1863 года. ✦✦✦ ГАНДЛЁВАЯ ВЫПРАВА НА «БАСОВІШЧА». Падарожныя нататкі. ✦✦✦ КРЫМСКІЯ ЗАЦЕМКІ. ✦**



*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта* *Заснавана ў 1920 г.*

*№ 5, пятніца, 14 жніўня 1992 г.* *Кошт 1 руб.*

● РАЗМОВА З ЧЫТАЧОМ

## РОБІМ НАСТУПНЫЯ КРОКІ

**Вось нарэшце мы збольшага й ператрывалі летнюю сьпёку, неўзабаве скончыцца таксама адпачынкавая пара. Зьвяртаньнем да працы, да штодзённага клопату адна-ўляецца нашая палітычная актыўнасьць, а разам з тым зноў зьяўляецца цікавасьць да прэсы. Напярэдадні гэтага часу мы пачынаем стала выдаваць грамадзка-палітычную газэту «Пагоня».**

**Дагэтуль у рэдакцыі ня было пэўнага штату супрацоўнікаў, таму немагчымым аказалася падтрымліваць пэрыядычнасьць выданьня. На жаль, мы ня здолеем выпускаць газэту штотыдзень, пакуль яна будзе выходзіць раз у два тыдні. Нагадваем: «Пагоня» зьяўляецца адной зь нешматлікіх незалежных газэт, як «Свабода» або «Наша Ніва». Яна не атрымлівае грошы ад саўміна або якогась міністэрства, яе цалкам субсідзіруе культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына», фінансавыя магчымасьці якога абмежаваны.**

**Не зважаючы на вядовыя цяжкасьці з ужываньнем не скалечанага бальшавіцкімі рэформамі правапісу, мы будзьма конча вяртаць годнасьць нашае мове. Пазіцыя рэдакцыі ў гэтай справе — памяркоўная, бо поўнае вяртаньне ў нязьменнасьці «тарашкевіцы» сталася б сёньня анахранізмам. Таму заклікаем сваіх чытачоў: пішыце ў рэдакцыю допісы і не забывайце ўжываць мяккі знак дзе гэта патрэбна або, наадварот, абавязкова пазначайце пры пісьме цьвёрдасьць — «навэла», «капэла», «фэдэрацыя» і г. д. Наперадзе абавязкова адбудзецца сапраўдная рэформа правапісу. Такім чынам, будзем набліжаць гэтую падзею, а не пасіўна чакаць яе.**

**Яшчэ адна акалічнасьць. Надалей назва нашага горада стане выкарыстоўвацца ў форме «Горадня», як найбольш слушнай, хоць дзякуючы вядомаму раману Ул. Караткевіча часьцей можна пачуць «Гародня». На першую форму, гэтак як і «Менск», «рада», «радавы» ды іншыя беларускія словы, існавала доўгія гады ідэялягічнае табу, бо імі карысталіся «нацдэмы». Вярнуць гістарычную справядлівасьць — наш абавязак.**

**Рэдакцыйная рада.**

# НЕПРАЦОЎНЫ ПАНЯДЗЕЛАК



**Развагі з нагоды сьвяткаваньня «дземянцеяўскай» незалежнасьці**

1. ———

Кладу ў рот кавалачак соявага шакаладу. Нібы салодка, нібы колер падобны, але гэта не сапраўдны шакалад. Вараная каўбаса нібы каўбаса, але не зусім. Усё ў нас гэтак. Замест газэт — «прывадныя рамяні», замест літаратуры — сацрэалізм з усімі выцякаючымі пасьледкамі, замест мовы — трасянка, замест правапісу... Замест БНР — БССР. Замест 25 сакавіка, Дня сапраўднае беларускае дзяржаўнасьці,— нейкі капэбоўскі замяняльнік у выглядзе панядзелка 27 ліпеня. Чамусьці лічыцца, што беларусам шкодна ўсё праўдзівае: шакалад, літаратура, незалежнасьць.

Адзінае, што ў новым штучнаватым сьвяце больш-менш можа падабацца, дык гэта пара году. Мала хто, мусіць, памятае, што Днём БССР было 1 студзеня. Прачыналіся гэтым днём позна, пахмяляліся пасьля Навагодняга баляваньня, уключалі тэлевізар й чулі, што сёньня чарговыя ўгодкі кубінскай рэвалюцыі, пасьля чаго традыцыйна зачытвалася прывітаньне ад савецкага ўраду й асабіста здароўнага гэнсека тав. Фідэлю Кастра. А пра БССР — моўчадзь. Рэч у тым, што нарадзіны здарыліся няўдалымі. Прасьцей кажучы, выкід. «Дзіця» паспрабавалі ўратаваць у гібрыднай — «літбелаўскай» форме, пасьля чаго і яна сканала. Улетку 20-га, каб абгрунтаваць палітычна свой заходні паход, маскоўцы абвясьцілі Шасьціпавятовую, абцятую з усіх бакоў, наступную БССР. Амаль нежывое пяці-шасьцімесячнае дзіцятка дзівам удалося адратаваць, і хоць яно вонкава гадавалася даволі здаровым (да 26 красавіка 1986 г.), але было, як бы гэта падалікатней сказаць, ня зусім паўнавартым. У такіх дзяцей ня ведаюць калі адзначаць дзень нараджэньня: фактычны або вапошні дзень дзевятага месяцу ад запачацьця, г. зн. паводле прыродных законаў.

Першым разам нашыя камуністычныя кіраўнікі былі цьвёрдымі і абвясьцілі сьвятам не вапошняе абвяшчэньне БССР, а пачатковае. Цяпер яны зрабілі наадварот, выстаўляючы дземянцеяўскую дэклярацыю ў якасьці своеасаблівага адкрыцьця Амэрыкі. Вядома, каб затынкаваць й дагэтуль малачытэльную памяць аб 25 сакавіка. Інакш кажучы, вырашылі накарміць людзей соявым шакаладам: давяцца, а ядуць. Але савецкі тынк мае ўласьцівасьць абсыпацца. Якасьць, як заўсёды, кепская.

Прашу прабачыць, але я забыўся скончыць пра добрую пару года. Дык вось, пачатак студзеня, халады-маразы. Зноў-такі, садавіна кансэрваваная, агуркі цяплічныя. Штосьці штучнаватае на сьвяточным стале. Хіба аранжыкі пасьля Навагодняй ночы застануцца, але ж мы не ў Афрыцы, каб адзначаць дзяржаўнасьць цытрусавымі. З 25-м сакавіка яшчэ горш: слата, дождж, ні зіма, ні лета. Хіба што дзе-небудзь пашанцуе пагрэцца кубачкам кавы. Я да чаго ўсё кірую? А да таго, што сьвята наша новае самы раз у вясельную пару адбываецца, у час, калі грыбы-ягады, памідоры-агуркі, яблыкі. Не жаваць жа на сьвята адно бульбу з салам або варанай каўбасой. Беларусь не Буркіна Фасо, дзе бананы круглы год.

2. ———

Другое пытаньне: як прывучыць насельніцтва рэспублікі да сьвяткаваньня? З аднаго боку, абы повад быў каб напіцца, зь іншага — бракуе пачуцьця сьвяточнасьці, без чаго няма весялосьці. А каму ж патрэбна невясёлае сьвята? Несалодкі цукар, нясьмешная кінакамэдыя... Задача, зрэшты, вырашальная. Скажу вам па сакрэту, народу ўсё адно, што й калі адзначаць. Уся справа ў прывычцы. Прыныклі пасьля першай не закусваць і хоць ты іх страляй...

Не даяце веры? Пачакайце. Я памятаю, адзін час, яшчэ да забастовак, вельмі былі ў фаворы шахцёры. Дзень шахцёра, у вапошні дзень жніўня, адзначыўся ўсёй СССР ня горш за ўгодкі кастрычніцкае рэвалюцыі. Зноў жа закускі ў такі час было багата. Напраўду ўсенародным зрабіўся й Дзень СА і ВМФ, каторы апантана адзначалі ўсе, незалежна ад таго, ці мелі хоць якоесь дачыненьне да войска: і белабілетнікі, і выхаванцы дзіцячых дашкольных установ і г. д.

Амаль пагалоўна, усёй краінай дружна «квасілі» і на Дзень чыгуначніка. Зрэшты, цягнікамі карысталіся ў нас бадай што ўсе, г. зн. дачыненьне да чыгункі меў сапраўды амаль кожны. Былі і розныя іншыя, апроч дня заробка, піцейныя дні, якія сёньня пакрысе пачалі забывацца, бо страцілі сваю сьвяточна-ідэалагічную афарбоўку.

**(Канчатак на 2 стар.)**

● МЫ У СЬВЕЦЕ

# Барсэлёна спазнала беларускі гарт

Памятаю сваё расчараваньне з адкрыцьця зімовай алімпіяды ў Альбэрвілі. Марна я сядзеў каля тэлевізара ў спадзяваньні ўбачыць беларускую зборню пад нацыянальным сьцягам. Потым Менск наведаў старшыня алімпійскага камітэту сп. Самаранча. Афіцыйна было абвешчана: улетку беларусы выступяць пад сваім сьцягам. Аднак уражаньне ад адкрыцьця Барсэлёнскае алімпіяды таксама было крыху папсута. Нават прадстаўніцтва самай невялічкай бананавай краіны мела асобна са сьцягам жазло з надпісам дзяржавы. Прайшлі зборні ўсіх краёў на літару «Б», а нашых усё няма. Яны выйшлі на стадыён у гурце з эсэнгоўцамі, сьцяг, праўда, быў, але жазло — чамусь агульнае з Азэрбайджанам і яшчэ кімсьці. Нават харвацкія і басьнійскія спартоўцы крочылі самастойна. Дарэчы, каталёнцы іх вельмі віталі.

На жаль, беларускія спартоўцы ў СССРы былі й застаюцца самымі касмапалітычнымі. Вынік дзеля выніку, літаратура дзеля літаратуры. Ёсьць у гэтым пэўная абмежаванасьць. Можна зразумець адно: арыентацыя на ўсесаюзныя спаборніцтвы была натуральнай, самастойна выязджаць у замежжа беларусы не маглі. Але сумаваць па іх час мінуў, дарога на эўрапэйскія і сусьветныя спаборніцтвы для нас адкрыта. А тое, што нам ёсьць што сказаць у спорце, паказалі апошнія алімпійскія гульні. Барсэлёну ўразіў К. Лукашык, 16-гадовы стралок з Горадні, які звajaваў першы залаты мэдаль... пакуль для СНД. Самымі дужымі ў сьвеце аказаліся два беларусы — цяжкаатлеты А. Курловіч (золата) з Горадні і В. Тараненка (срэбра) зь Менску. Гімнаст-мянчук В. Шчэрба атрымаў ажно 6 медалёў, тэнісістка Н. Зьверава дамаглася бронзы. У неафіцыйнае прграме выдатна выступіла беларуская зборня па тэквандо, праўда, пад шыльдай СНД. Ня дзіва, што астанкінскія тэлекамэнтататы, вядомыя сваёй рэўнасьцю да Беларусі, рэдка калі прызнавалі, што гэтак выдатна выступаюць менавіта беларускія спартоўцы. Па сваёй былой сталічнай звычцы яны называлі іх апякунча «наши ребята».

Не, што б там не казалі, а гэта сапраўдны трыумф. Няхай мне даруюць за параўнаньне нашыя суседзі, але Польшча, у некалькі разоў большая за Беларусь па тэрыторыі й насельніцтву, атрымала 19 алімпійскіх мэдалёў, а мы — амаль 30! Нават самой Іспаніі дасталося толькі 22. Па маім перакананьні, беларускія спартоўцы, хай у рознай ступені, але ўсё ж адчулі сябе моцнай згуртаванай нацыянальнай зборняй, зь якой не дадуць рады змагацца суседзі: разам узятыя прыбалты або нават палякі. Нездарма ж пры закрыцьці алімпіяды годна крочыў на правым фланзе эсэнгоўцаў наш сьцяжнік. У ягоных руках пекна высока лунаў Бел-чырвона-белы сьцяг, які некалькі разоў трапіў у тэлеаб'ектыў і які ўбачылі соткі мільёнаў гледачоў ва ўсім сьвеце.

**Авэн.**

# НЕПРАЦОЎНЫ ПАНЯДЗЕЛАК

## Развагі з нагоды сьвяткаваньня «дземянцеяўскай» незалежнасьці

(Канчатак. Пачатак на 1 стар.)

Высновa: несапраўдныя сьвяты, нібы якія-неб. канторы накшталт «Рогі ды капыты», узьнікаюць, набываюць папулярнасьць, а потым забываюцца. Такім чынам, 27 ліпеня таксама мае шанц стаць усенародным днём застольля. Зрэшты, не зусім. Гэта будзе сьвята рабочай клясы й службоўцаў. Для вяскоўцаў, да якіх заўсёды з падазронасьцю ставіўся перадавы атрад нашага грамадзтва, канчатак ліпеня — самая пільніца, піць гарэлку зусім не выпадае. Застаецца выпрабаваная 70-гадовая традыцыя адзначыць сьвята працоўнай вахтай.

3.

У Горадні адзначылі 27 ліпеня наступна. Перадусім каля кінатэатра «Кастрычнік» у Кастрычніцкім раёне нарэшце ўключылі вадаліў. Калі ўзяць пад увагу 30-градуснае надвор'е, дык атрымалася сапраўднае сьвята. На лічаных дзяржаўных установах замянілі выцвілыя сьцягі, дзенідзе вывесілі новыя. У старым парку традыцыйна працавалі карусэлі, прадавалася піва, на летняй сцэне выступалі самадзейнікі. У прыватнасьці, хор «Паходні» адсьпяваў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа». Павіншаваў гарадзян з Днём незалежнасьці прафэсар А. Пяткевіч. Афіцыйных асобаў не было. Прыехаў, праўда, на кані сам князь Вітаўт, які былінным сказам па-беларуску зьвярнуўся да прысутных. Праўда, ён ня быў падобным да таго Вітаўта, якога мы ведаем паводле славутае карціны Я. Матэйкі «Грунвальд». Нагадваў ён хутчэй быліннага асілка, а суправаджалі яго чамусьці вершныя дзяўчаты-гусары. «Гарох з капустай» па-беларуску. Але важна, што гарадзяне нарэшце прызналіся: Вітаўт — свой, а не Чапай са Шчорсам, помнічкі якім стаяць бязглузда ў горадзе.

Спынімся на помніках. Звычайна (у іншых, вядома, краінах) у Дзень незалежнасьці адбываецца вайсковы парад і ўрачыстасьць ушанаваньня магілаў і помнікаў нацыянальных гэрояў, якія аддалі свае жыцьці дзеля Бацькаўшчыны. У нас параду ня было, бо не існуе нацыянальнага войска. З помнікамі ўвогуле непаразуменьне. Самы вялікі й самы цяжкі ў горадзе помнік тав. Мікалаю Леніну, які аніякіх адносінаў да нашае незалежнасьці зусім ня мае й толькі двойчы ці тройчы ўспамянуў беларусаў у сваім 55-томным зборы твораў. Вось чаму кветак яму ў ногі не клалі, а ўсяго абмежаваліся тым, што абапал ягонай валатоўскай постаці вывесілі асобна белыя і чырвоныя сьцягі. Праўда па-над голавам пралетарскага правадыра луналі два Бел-чырвона-белыя сьцягі. Ну проста бацька родны беларусам. Усё адно што Пілсудзкі для палякаў.

Чапаеву са Шчорсам таксама кветак не дасталося, бо яны Беларусь не вызвалялі. Або ўзяць абэліск 1944 г. Салдаты, вядома, ні ў чым не вінаваты, але яны таксама не змагаліся за нацыянальную незалежнасьць, а папросту вызвалялі тэрыторыю рэспублікі ад ворага. Таму начальства не рашылася ўрачыста ўскласьці кветкі і сюды. Апошні прэтэндэнт — Янка Купала. Але ж не дзяржаўны дзеяч, не вайсковы. Дый помнік яму не зусім сур'ёзны: нібыта ў 50 разоў павялічаны бюсьцік з пісьменьніцкага габінэту і стаіць дарэчы, на камнёвай паліцы. Вяшчун, пясьняр, пакутнік, але для начальства не аўтарытэт. Няма ў Горадні патрэбнага помніка, адно размовы вядуцца. Пра Д. Гарадзенскага, К. Каліноўскага, Вітаўта. А пакуль на высокім мейсцы стаіць-танк, пагрозьліва павярнуўшы рулю на захад. Але яму й бяз кветак добра.

4.

Калі начальства ў гэты дзень прылюдна не паказалася, дык вайскоўцы ўсё ж учынілі відовішчны спэктакль на стадыёне «Чырвоны сьцяг». Сьцягі й сапраўды былі вывешаны чырвоныя. Калі ўжо сабраліся гледачы, нейкія пэнсіянеры, крэкчучы, справілі памылку й узьнялі Дзяржаўны. Потым ён таксама фігураваў на вэрталёце, у нагох парашутыста й нават у збройнай атацы (гл. на здымку).

Увечары ў тэлевізійнай «Панараме» — вымучаныя рэпартажы са сьвяткаваньня ў Гомлі, яшчэ недзе. Гучала саладжавае «па гарадох і вёсках нашай сінявокай Беларусі» і г. д. А скончылі навіны, перад прагнозам надвор'я, словамі «Бывайце здаровы! Жывіце багата!» Мне зрабілася ніякавата, бо міжволі ўз... што гэтая папулярная жыц... дасная песенька была на... ў 1937 годзе. Ува мне абу... ўнутраны голас абачлівага... руса: лепш ужо такое, ...мянцеяўскае» сьвята, чым н... га.

**С. АСТРАЎ...**



Фота А. УЛАДАСЕВІЧА

---

ПОГЛЯД З ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСЬ РАСЕЙСКАЯ

## *Спроба палітычнага прагнозу*

Ва ўсіх краінах на месцы былога СССР зараз ідзе фармаваньне палітычных сістэм, г. зн. сукупнасьці палітычных партый, якія адлюстроўваюць асноўныя кірункі грамадзкай думкі і альтэрнатыўныя шляхі развіцьця гэтых краін. У кожнай зь іх свае асаблівасьці, і ўсе паглядаюць адна на адну, спадзяючыся выцягнуць для сябе ўрок. Паглядзім на сябе самі.

Здаецца, з усіх падзей на Беларусі найбольш зьнешні рэзананс мела легалізацыя «новых камуністаў». Але як і ўсе беларускія справы, яна не прыцягнула належнай увагі. Па-першае, сьвет ня надта намі цікавіцца. Па-другое, у зьяўленьні ПКБ не было нічога прынцыпова новага, яна толькі легалізавала існаваньне даўно вядомай палітычнай сілы. Пры ўсёй значнасьці такой падзеі прынцыповы расклад сілаў на палітычнай арэне не зьмяніўся, бо асноўная асаблівасьць — двухполюсная структура і адсутнасьць сфарміраванага цэнтра — захавалася.

Між тым прэтэнзія займаць месца цэнтру адыгрывае немалую ролю ў беларускіх палітычных гульнях. Пазіцыя цэнтра прыцягвае сваёй статыстычнасьцю, ураўнаважанасьцю, абяцае падтрымку выбаршчыкаў. Але ні адна партыя ня можа сама аб'явіць сябе цэнтрам, пакуль няма правых і левых. Інакш кажучы, толькі пры наяўнасьці ня менш як трох палітычных плыняў прыблізна аднолькавай сілы адна зь іх можа апынуцца на месцы цэнтру. Аднак неабходна выкананьне яшчэ адной умовы: усе тры плыні павінны адрозьнівацца адна ад адной у разуменьні прынцыповых праблем сучаснай палітыкі.

Зараз на Беларусі існуюць дзьве плыні: адраджэнцкая, якую узначальвае БНФ, і — антыБНФаўская, якая пакуль ня мае выразнага партыйнага афармленьня, і складовай часткай якой зьяўляюцца «новыя камуністы».

Такі падзел не зьяўляецца адвольным. Ён праведзены па крытэрыю адрозненьня поглядаў партый на галоўныя пытаньні палітыкі. Сёньня на Беларусі прынцыповай палітычнай праблемай застаецца ўсталяваньне дзяржаўнасьці, а не эканамічная рэформа, неабходнасьць якой мы ўсе выразна адчуваем. Пакуль ня вырашана пытаньне дзяржаўнасьці, або іншымі словамі пытаньне аб уладзе — і аб тым, якая плынь будзе яе ажыцьцяўляць — ніякае пасьлядоўнае правядзеньне рэформы немагчыма. Ход рэформы залежыць ад таго, якой сіле будзе належаць улада на Беларусі ў бліжэйшыя гады. Пакуль гэта ня вырашана, замест рэформы будзе толькі мітусьня, хістаньні і няпэўнасьць, бездапаможнае падпарадкаваньне зьнешнім фактарам, што мы зараз і назіраем.

Таму і размяжоўваюцца партыі ў першую чаргу не па эканамічных падыходах, а па адказу на пытаньне: вы за незалежную Беларусь? Эканамічная палеміка грае ролю падначаленую і шмат кім з праціўнікаў незалежнасьці ўжываецца толькі каб прыхаваць свой адмоўны адказ на галоўнае сёньня пытаньне. Бо сорам жа і няёмка партыі Рэспублікі Беларусь адмаўляць той Беларусі ў існаваньні. Часта адмоўны адказ падаецца ў форме апэляцыі да рэаліяў і каштоўнасьцяў таго часу, калі незалежнай Беларусі не было: пануючай ролі рускай мовы, арыентацыі на Маскву, сацыялістычнай сістэмы ўласнасьці, камуністычнай ідэалёгіі і г. д. Але ўся гэтая эзопава і неэзопава мова зводзіцца да адмаўленьня самастойнай беларускай дзяржавы.

Такая пазіцыя пакідае для партый вельмі малую прастору для манэўраў і разьбежных палітычных поглядаў. Да таго ж спэцыфічныя ўмовы Беларусі: татальная русіфікацыя краіны, кволая нацыянальная сьвядомасьць народу, самой дзяржавы і актыўнасьць суседзяў вядуць да таго, што нават памяркоўнае русафільства (а ў нашых умовах адмаўленьне дзяржавы Беларусі вядзе звычайна да русафільства) ёсьць крайняя пазіцыя, бо яно і памяркоўнае — вельмі небясьпечнае для існаваньня рэспублікі.

Але ніякія намаганьні ня могуць прывесьці антыдзяржаўныя сілы ў цэнтр палітычнага спэктру, хаця з умацаваньнем дзяржавы зь іх могуць напладзіцца больш блізкія да цэнтру партыі прамаскоўскай арыентацыі.

На ролю цэнтра рэальна можа прэтэндаваць БНФ зь яго праграмай паступовага будаўніцтва дэмакратычнай дзяржавы. Але каб ён мог стацца цэнтрам, неабходна існаваньне досыць моцнай крайняй нацыяналістычнай партыі. Чакаць такога ва ўмовах Беларусі не даводзіцца.

Пры вымушанай радыкальнасьці адраджэнцаў і прынцыповай нядольнасьці стаць больш памяркоўнымі іх праціўнікаў, цэнтр застаецца не занятым. Відаць, сама прырода пытаньня аб дзяржаўнасьці стварае такую сітуацыю. Аднак, безумоўныя перавагі цэнтрысцкай пазіцыі робяць яе ў вачах многіх беларускіх палітыкаў нечым накшталт філязофскага каменя, здольнага надаць кожнаму іх слову вартасьць золата. Таму не спыняцца спробы сканструяваць цэнтрысцкую пазіцыю, нягледзячы на вышэйпамянёныя цяжкасьці.

Для гэтага ўжываюцца розныя спосабы. Першы палягае на тым, што асноўнае пытаньне — аб дзяржаўным будаўніцтве — ігнаруецца, як нібыта вырашанае. Асноўны націск робіцца на эканамічныя пытаньні. Прыклад такой пазіцыі, на маю думку, дае Сялянская партыя. Такі падыход мае поўнае права на існаваньне, больш таго, яму ў пэўнай ступені належыць будучыня, калі пытаньне трываласьці дзяржавы перастане быць дамінуючым. Але хто ў нас наважыцца сьцьвердзіць, што гэта адбудзецца хутка? Пакуль жа такія партыі ствараюць «балота». Такія прэтэнзіі на цэнтрызм паслабляюць стабільнасьць у грамадзтве, а самі партыі могуць лёгка прывесьці да шкодных для іх крокаў і пагадненьняў. А пазіцыя гэта, на жаль, вельмі пашыраная.

Другі спосаб заснаваны на тым, што па-руску завецца «лукавством». Тут людзі разумеюць, што зараз галоўнае ў беларускай палітыцы, і ня ўхіляюцца ад пытаньня. Яны супраць дзеяньняў і праграмы БНФ, але лічаць немэтазгоднай прамую апеляцыю да каштоўнасьцяў часоў «адзінства». Іхняя тактыка базуецца на даўно заўважаным факце, што, ня маючы ўлады, БНФ дабіўся ажыцьцяўленьня сваіх асноўных праграмных мэтаў, хаця б і фармальна. Таму галоўным сродкам барацьбы абрана перабольшваньне ролі БНФ у жыцьці рэспублікі. Няма ўжо мовы пра «кучку экстремистов». Гавораць пра сфарміраваную «новую зададзенасьць» у грамадзтве, пра замену адной таталітарнай ідэялёгіі (камуністычнай) на іншую (нацыяналістычную), пра «жорсткі нацыяналізм» і г. д. Асаблівы націск робіцца на справы мовы і культуры, бо тут, як здаецца гэтым людзям, Фронт ня можа спадзявацца на ўплыў зьнешніх фактараў. Такая прапаганда знаходзіць послух сярод пэўнай колькасьці людзей, асабліва з агрэсіўна-«русскоговорящей» часткі грамадзтва, якая ўсё баіцца «апаганіць» вусны беларускай мовай.

Сярод ідэёлагаў гэтага руху шмат дзеячоў з розных установаў «грамадзкіх навук» і ВНУ, бо іх у першую чаргу кранае беларусізацыі. Інтэлектуалам належыць быць дэмакратамі, і яны старанна дэманструюць свае лібэральныя погляды. Найбольш часта ўжываецца выраз «правы чалавека». Эканамічныя іх погляды слаба распрацаваныя, але, здаецца, схіляюцца таксама ў бок эканамічнай свабоды. Тым ня менш, поўнае, хоць прыхаванае часам, непрыйманьне Адраджэньня моцна шкодзіць такому лібэралізму. Назіраючы за тым, з якім казуістычным майстэрствам, памножаным на цынізм, ахайваюць гэтыя людзі ідэі Адраджэньня, і ўспомніўшы, як нядрэнна пачуваліся яны пры старым ладзе, міжволі задумаешся — ці мо і гэты лібэралізм — тактычны ход? Хутчэй за ўсё так, ва ўсякім разе для многіх.

Зараз гэтыя людзі, хоць і не згуртаваныя пакуль у традыцыйныя партыйныя структуры, зьяўляюцца правячай партыяй на справе, бо такія погляды вызнае значная частка кіруючага чыноўніцтва. Але фатальнае пытаньне дзяржаўнасьці робіць іх пазіцыю надзвычай хісткай. Для ўмацаваньня яе неабходна ўмацоўваць дзяржаву, а ў нашых спецыфічных умовах гэта можна рабіць толькі праз Адраджэньне і беларусізацыю. Інакш на Беларусі будзе вечная барацьба паміж польскімі і расейскім уплывамі, згубная ня толькі для дзяржавы і народа, але і для эканомікі. Гісторыя выразна задэманстравала нам, што гэтая барацьба жорсткая і ня ведае кампрамісу. Адзіны ратунак — адраджэньне беларускасьці. Але нашым цэнтрыстам, якія пяюць асану памяркоўнасьці і згодзе, гэта стаіць папярок горла. Чаму? Яны наўрад ці самі могуць растлумачыць. Вельмі многае тут сплялося: русіфікатарскае выхаваньне, бальшавіцкая (па паходжаньні) непавага да культуры, жыцьцёвая руціна, боязь невядомага, «лукавые» падказкі «старэйшых братоў» з Масквы і новых сяброў з Варшавы.

Неакрэсьленасьць пабудак, аднак, зусім не перашкаджае мэтанакіраванасьці і энэргічнасьці іхніх дзеяньняў, якія ў вапошні час прыбралі рысы масіраванай прапагандысцкай кампаніі супраць беларусізацыі.

Заўважаюцца таксама спробы ўкласьці адпаведную палітычную праграму, прыдатную для стварэньня партыі. Але ў такой праграме будзе залішне многа «лукавства», і яна будзе лёгкай мішэньню для крытыкі. Тут у аўтараў можа быць толькі адно спадзяваньне: абмежаваць голас крытыкаў звычайнымі адміністратыўнымі метадамі. Улада для гэтага ёсьць.

Такі цэнтар (так ён схілены сябе называць) мае рэальныя шанцы на ўмацаваньне пры ўладзе на Беларусі. Да чаго гэта можа прывесьці? Да слабой дзяржавы, кіруемай моцнымі суседзямі, накшталт таго Лівану, у якой будзе з-за гэтага вечная палітычная нестабільнасьць і паўкаланіяльная слабаразвітая эканоміка, якую такое становішча цягне за сабой. Магчыма — і да поўнай страты самастойнасьці. Пры намінальным захаваньні дзяржавы — да непазьбежнага ўзмацненьня таталітарных тэндэнцый, што таксама не спрыяе росквіту гаспадаркі. Гэткі вынік непазбежны, калі ўлада не паважае сваю дзяржаву. Якімі б выдаткамі не былі пры гэтым яе эканамічныя праэкты, яна ніколі не дабьецца посьпеху.

**Д. ЖУКОЎСКІ,**
**г. Санкт-Пецярбург.**

 



АРГУМЭНТЫ ВУНІЯЦКАГА СЬВЯТАРА

# ХРЫСТОС СТВАРЫЎ АДЗІНУЮ ЦАРКВУ

Сёньня час глыбіннага маральнага заняпаду, выкліканага працяглым панаваньнем у галовах насельнікаў былога Савецкага Саюзу ідэялёгіі атэізму, і для адраджэньня маральнасьці нам патрэбна вяртаньне да хрысьціянства. Але пасьпяховаму пашырэньню хрысьціянства перашкаджае яго раскол і асабліва падзел на праваслаўе і каталіцтва. Прыйшоўшы да Хрыста, чалавек спыняецца ў разгубленасьці, ня ведаючы, якое хрысьціянскае вызнаньне ёсьць ісьціным, а якое не. Цяжка разабрацца ў гэтым пытаньні, таму шмат хто застаецца верным вызнаньню сваіх бацькоў — сямейнай, нацыянальнай традыцыі, іншыя, ня здолеўшы адшукаць ісьціну, увогуле адварочваюцца ад хрысьціянства, горнуцца да іншых рэлігій.

Такім чынам, пераважная большасьць хрысьціян, як каталікоў, так і праваслаўных і пратэстантаў, звыкаюцца з фактам расколу, успрымаючы яго як натуральны і непапраўны. Але варта узьняць пытаньне:«А каму выгодны раскол у хрысьціянстве?» — і мы адразу развітаемся са сваёй абыякавасьцю. Бо раскол паміж хрысьціянамі выгодны, канешне ж, толькі сілам злым, сілам цемры, што ненавідзяць хрысьціянскі сьвет, які выкрывае амаральныя паводзіны грэшнікаў («кожны бо, хто робіць благое, ненавідзіць сьвятло» — Ян, 3, 20). Гэта ім выгодны раскол хрысьціянства, бо згодна старой рымскай прымаўцы «падзяляй і ўладар», паслабляюцца сілы дабра, якія перашкаджаюць рабіць зло. Гэткія высновы розуму, які сьведчыць, што ўсе хрысьціяне павінны імкнуцца да адзінства, бо ў адзінстве — сіла. А што гаварыў аб адзінстве хрысьціян сам Хрыстос, што гаварылі аб гэтым ягоныя вучні-апосталы?

Хрыстос хацеў стварыць толькі адну царкву. Гэта бачна зь яго слоў, зьвернутых да апостала Пятра: «Ты — Пётр (па-грэцкі — камень, скала), і на гэтай скале я збудую царкву Маю» (Мц. 16, 18). У гэтым урыўку слова «царква» вымаўлена ў адзіночным ліку. Гэта азначае, што Хрыстос хоча стварыць толькі адну сваю царкву, такім чынам, сапраўдная Хрыстова царква можа быць толькі адна.

Але Хрыстос ня толькі хоча стварыць адну сваю царкву. Ён хоча, каб яна і надалей была адзінай, не падзялялася на асобныя, з розным веравучэньнем. Гэтае жаданьне Хрыста бачна зь яго малітвы: «Не за іх (за апосталаў) жа толькі прашу, але і за тых, хто верыць у мяне паводле іхняга слова. Няхай будуць усе разам: як ты Айцец ува мне, і я ў табе, гэтак і яны няхай будуць разам» (Ян, 17. 20-21). Мала таго, Хрыстос засьцерагае ад спакус да падзелу царквы: «Сьцеражыцеся, каб хто не падмануў вас, бо многія прыйдуць пад іменем Маім і будуць гаварыць: «Я Хрыстос», — і шмат каго падмануць» (Мц., 24, 4-5).

Нарэшце Хрыстос, ведаючы, што будуць падзелы сярод хрысьціян, гаворыць аб неабходнасьці ўзнаўленьня адзінства і прадказвае, што яно будзе адноўлена: «Маю я і іншых авечак, што ня з гэтага двара (адпаўшыя ад царкоўнага адзінства) і гэтых трэба Мне прывесьці, каб і яны пачулі голас Мой; і будзе адзін статак і адзін пастыр» (гэта значыць адна царква і адзін галава царквы) — (Ян, 10, 16).

Аб неабходнасьці захоўваць адзінства царквы гаворыць і апостал Павел: «Захоўвайце еднасьць духу ў хаўрусе міру. Адно цела і адзін дух... Адзін Госпад, адна вера, адно хрышчэньне» (Эф. 4, 3-5). «Малю вас, браты, сьцеражыцеся тых, што робяць нязгоду і спакусы супраць навукі, якое вы навучыліся, і ухіляйцеся ад іх; бо гэткія служаць ня Госпаду нашаму Ісусу Хрысту, а свайму чэраву, ды ласкавасьцяй і красамоўствам зводзяць сэрцы прастадушных» (Рым, 16, 17-18). «Малю вас, браты, імем Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб усе вы гаварылі адно і ня было б між вамі падзелаў, але каб вы злучаны былі ў адным розуме і ў адной думцы. Бо ад хатніх Хлоявых сталася мне вядома аб вас, браты мае, што між вамі ёсьць спрэчкі. Кажу ж аб тым, што кожны ў вас кажа: я Паўлавы, я Апалёсавы, я Кіфавы, а я Хрыстовы. Хіба Хрыстос разьдзяліўся?» (1 Кар. 1, 10-13).

Адсюль высновы. Хрыстос стварыў толькі адну царкву. Хрыстос і апосталы хацелі захаваць гэта першапачатковае адзінства царквы. Знішчэньне хрысьціянскага адзінства выгодна толькі ворагам царквы. Калі Хрыстос і апосталы хацелі царкоўнага адзінства сярод хрысьціян, дык мы, любячыя Хрыста, незалежна ад нашага хрысьціянскага веравызнаньня, павінны імкнуцца да хрысьціянскага адзінства ня толькі ў веравучэньні, але і ў царкоўнай арганізацыі (бо апостал Павел гаворыць: адно цела) і таемнасьцях (бо ён жа кажа: адно хрышчэньне).

Мы, жыхары Беларусі — хрысьціяне праваслаўнага і каталіцкага вызнаньня таксама павінны задумацца над неабходнасьцю царкоўнага адзінства. Калісьці мы працягнулі адзін аднаму рукі і ў 1596 г. у Бярэсьці правялі ўзьяднаньне цэркваў. Ідэя царкоўнай Вуніі распаўсюдзілася амаль па ўсёй Беларусі і ўтвораная ў выніку вуніі грэка-каталіцкая Царква Беларусі праіснавала да 1839 г., пакуль ня была гвалтоўна зьліквідавана расейскім самаўладствам. Пасьля першай сусьветнай вайны 1914-1918 г. г. у заходніх вабласьцях Беларусі — пад Слонімам і Пінскам зноў сталі ўтварацца грэка-каталіцкія вуніяцкія абшчыны, але былі зьнішчаны пазьней сталінскім рэжымам. Аднак ідэя вуніі жыве, бо гэтага хоча Хрыстос і зноўку адраджаюцца вуніяцкія абшчыны. Яны заклікаюць усіх хрысьціян да паразуменьня, адзінства, ня толькі практычнага, але і дактрынальнага.

**Грэка-каталіцкі сьвятар а. Віктар Данілаў.**

## ЗЬМЕНА Ў КІРАЎНІЦТВЕ СПБ

*На ліпеньскім паседжаньні праўленьня Саюза палякаў Беларусі адбылася зьмена ў кіраўніцтве. Намесьнік старшыні праўленьня па культуры Р. Кацынэль быў вызвалены з пасады, а на яго месца зацьверджаны Р. Клячкоўскі. Справа ў тым, што сп. Р. Кацынэль падрыхтаваў для газэты «Глос з-над Немна» артыкул, у якім выказаў свае погляды на шляхі польскага адраджэньня на Беларусі. Аўтар бачыць СПБ як культурна-асьветную арганізацыю, а не як палітычную партыю, ён таксама лічыць, што падобны пункт гледжаньня адпавядае большасьці беларускіх палякаў. Так гэта ці не, магла выявіць газэтная дыскусія. Аднак праўленьню артыкул не спадабаўся й ня быў надрукаваны. Тады аўтар сам абнародаваў напісаны ім артыкул, у адказ на што й адбылася вышэйзгаданая зьмена. Вельмі шкада, што так атрымалася. Бо Р. Кацынэль даўно вядомы ў польскім руху як развважны і дальнабачны чалавек. Дарэчы сказаць, ён, не падзяляючы палітызаваныя і прадпрыймальніцкія пагляды сваіх калегаў, увесь час зьвяртаў іхнюю ўвагу на недаацэньваньне культурна-асьветнай і інтэлектуальнай працы.*

**Д. М.**

# У БУФЭЦЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

**ЗЬ МЕНСКІХ УРАЖАНЬНЯЎ**

Раней можна было наведваць Менск не часьцей як раз у год й пры гэтым не спатыкаць аніякіх зьменаў. Правінцыйны Менск, які стаяў на шляху з крамлёўскай сталіцы да Парыжу, быў надзейна апанаваны летаргічным сном. Беларусь рупліва сеяла, дбайна жала, пасьля чаго ўгодліва рапартавала вуснамі сваіх лепшых прадстаўнікоў, у якіх сьлязіліся вочы, калі яны аддана глядзелі на Ўсход, дзе з-за зубчастага мура ўзыходзіла сонца. Не дапамагала нават тое, што яны ахоўна прыкладалі да броваў у якасьці брыля свае мазалёвыя далоні. Але гэтак было калісь. Сёньня са зменамі інакш, хоць халуйскую звычку рапартаваць змагчы ў сабе пакуль не атрымліваецца.

Трапляеш у сталіцу праз якія месяц-два й адразу заўважаеш штосьь іншае. На чыгуначнай станцыі люд жуе бананы, нібы якія руткевіцкія яблыкі. Шэрагам стаяць, быццам у нас у Горадні, цёткі, прыціскаючы да сябе бутэлькі з «Жыгулёўскім». Свабодны гандаль — крок наперад, да капіталістычнага сацыялізму. Адна з апошніх прыкметаў разьвітога сацыялізму — надкусаны вантрабяны піражок, які сіроча ляжыць на пыльным асфальце. Раней усё было танна, але нічога не было. На маю думку, гэта адна з прыкметаў сацыялізму. Есьці даводзілася пераважна бульбу (8—12 кап. за кілю) ды таксама вельмі танны й даволі няякасны хлеб. Вось яшчэ падказваюць, што мяса было танным. Слушна, але ж нам, большасьці, даставаліся косткі ды сала. Ці, можа, я хлушу? Не, усё слушна. Ведаю толькі, што суайчыньнікам шкада слова. Нібыта й кпілі з таго сацыялізму, а як ня стала яго, дык нейк і няўтульна зрабілася. Цяжка народу без усякага ізму, сьвярбяць рукі які-небудзь «...зм» будаваць, зноў жа, рапартаваць цяпер няма каму. Ліха й годзе!

Зрэшты, мы крыху адхіліліся ад свае тэмы. Мінулым разам я ўжо згадваў пра мэтро. Мінула няшмат часу й праезд у ім каштуе не 40 кап., а ўжо рубель, прычым мяняеш яго ў касе на пластмасавы круглік, які потым укідаеш у шчыліну турнікэту замест манеты. З прыемнасьцю хачу таксама паведаміць аб тым, што крытыкаваная мной мінулым разам асфальтоўка на праспэкце Скарыны ўжо адрамантавана. Праўда, наўрад ці адыграла ў гэтым станоўчую ролю публікацыя ў «Пагоні». Хутчэй папросту паскардзіліся кіроўцы замежных дыпляматаў. Досыць пастаяць трошкі на праспэкце, каб убачыць, як раз-пораз міма праязджаюць усялякія мэрсэдэсы з чужаземнымі сьцяжкамі на капотах. Прыкмета часу: Менск пакрысе пачынае рабіцца падобным да Сталіцы Дзяржавы. Прычым заўважу, што гэта вельмі выгодна перш за ўсё нават не бэнээфаўцам альбо беларускім пісьменьнікам, а найлепшым прадстаўнікам нашае нацыі — былым цэкоўцам з хаўрусьнікамі, якія выдатнейшым чынам уладкаваліся ў новых умовах, самі сабе начальнікі і якім болей няма патрэбы лісьлівіць й гнуць карак перад крамлёўскімі чаноўнікамі. Яны ўхапіліся за дзяўржаўнае стырно яшчэ мацней і ніякім колам, а пагатоў пры дапамозе рэфэрэндума, іх стуль не прапрэш.

Амэрыканскі пасол пераконвае з тэлеэкрану беларусаў (нават зрабіўшы ўступ на беларускай мове) у Дзень незалежнасьці ЗША ў тым, як гэта добра мець свабоду й незалежнасьць, бо толькі дзякуючы ім амэрыканцы гэтак заможна жывуць. Ажно сьляза ў мяне нагарнулася, як пераконваў заморскі дыплямат маіх суайчыньнікаў у тым, што Амэрыка будзе ўсяляк дапамагаць Беларусі, калі апошняя стане цаніць уласную незалежнасьць. Але я ведаю, наш тэлеглядач слухаў абяцанкі скэптычна й абавязкова меў у галаве думку пра падкопы ЦРУ. Беларус пагодзіцца з амэрыканцам толькі калі той прышле процьму кілбасы, на якой пераканаўча будзе напісана «Лібэрці».

А каля дому першага зьезду РСДРП маніфэстуюць пад бэсэсэраўскім сьцягам тыя, каму няўтульна жыць бяз слова ізм, але й каля стырна не магло знайсьціся месца. Папросту імкнуцца жыць як людзі — гэта не для іх. Абавязкова патрэбна змаганьне. А ў змаганьні адныя перамагаюць, астатнія прайграюць. Ёсьць пераможцы, а ёсьць ахвяры: параненыя, забітыя й палонныя. Інакш у ленінцаў й не бывае. Нездарма ж перапалоханы Вярхоўны Савет пасьля жнівеньскага путчу, са страху зацьвердзіў нам Пагоню ды Белчырвона-белы сьцяг. Яны ж, наіўныя, думалі, што зь імі зробяць гэтак, як яны ўчынілі б з намі, каб язавы перамаглі. Але ўсё абыйшлося, самапорцыі адрэналіну для ўражлівых арганізмаў найлепшых прадстаўнікоў народа аказаліся бязкрыўднымі. А што датычыць РСДРП, дык сімвалічна, што, пачынаючы са свайго першага менскага зьезду, гэтая арганізацыя ніяк не заўважала Беларусі ды беларусаў зь іхняй моваю, якую вартыя нашчадкі першых зьездаўцаў удала зьмясьцілі ў своеасаблівую рэзэрвацыю, званую СП БССР. У мройным маленстве мне таксама давялося пабываць у гэтым драўляным дамку з экскурсіяй. Запомнілася вялікая лямпа й макэт падземнае друкарні, у якой тав. Сталін нібы выдаваў штосьь бальшавіцкае.

У гэтых маніфэстантаў ёсьць духовыя хаўрусьнікі, якія апантана называюць прызнаную ці не паловай сьвету, апроч розных Сэнэгалаў, Беларусь Расеяй, а беларускую мову — расейскай. Гэтыя таксама выкарыстоўваюць бэсэсэраўскі сьцяг, тым самым лішні раз пацьвярджаючы, што гэтае палітычнае ўтварэньне ня было нацыянальна-дзяржаўным. Іх, аднак, не цікавіць лёс музэю першага зьезда, больш за ўсё ім карціць, каб РБ прызнала самазваную Прыднястроўскую рэспубліку. Унікальны, дарэчы, прыклад у гісторыі: не жадалі вывучаць ненавісную ім нацыянальную мову й учынілі супраць Малдовы вайну. Не, трэба было б прызнаць гэткіх гэрояў! Дарэмна міліцыянты прагналі «славянасабораўцаў» ад Міністэрства замежных справаў Беларусі, дзе тыя пікэтавалі. Ва ўсякім разе, не хапіла міліцыі дальнабачнасьці, бо раптам сабораўцы, натхнёныя прыкладам, учыняць і ў нас сваю прыднястроўшчыну? Яны тады пакажуць «кузькину мать»!

Увогуле дарэмна кажуць, што ў нас сёньня дагэтуль кволае нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне. Факты сьведчаць пра іншае. Некалькі гадоў з БНФам самотна змагалася адное ЦК КПБ, што праўда — пры дапамозе сваіх брахлівых друкаваных органаў. У той час, калі паўсюдна шчыравалі ўсякія інтэрфранты, як рэакцыя на моцныя нацыянальныя рухі, у нас было ціха: БНФ не меў вялікае моцы, а ЦК, як потым, высьветлілася, быў яшчэ слабейшым, таму й ня здолеў пахаваць свайго ворага. Сёньня інакш. Усякая інтэраўская пошасьць адчувае ўнутраную моц беларускае ідэі, якая рана ці позна пераможа на Беларусі, вось чаму й заварушыліся ў нас інтэры. Калі варганізм нарэшце адчуў у сабе нейкія зрухі да здароўя, хваробатворныя бактэрыі зноў узяліся рабіць сваю справу.

Памылкова было б аднак думаць, што ў сталіцы я адно разглядаў пікэты. Распавяду цяпер зусім пра іншы выпадак. Адзін мой сябра-журналіст доўга й марна спрабаваў памяняць сваю кватэру з Гомеля на Менск. Але хварэла дзіця, і яны з жонкай вырашылі пераязджаць, не чакаючы. У сталіцы нямала часу наймалі прыватную кватэру, ажно нарэшце абмен адбыўся і вось якім цікавым чынам. У рамках перасяленьня жыхароў чарнобыльскай зоны частка кватэр для іх выдзяляецца нават у самым Менску, але ім не дазваляецца прапісываць да сябе нікога іншага. Такім чынам пасьля сьмерці высяленцаў кватэры застануцца ва ўласнасьці менгарвыканкаму. І вось тады дзеці або ўнукі той старой бабулі мяняюць выдзеленую ёй аднапакаёўку у сталіцы на двухпакаёвую кватэру ў Гомелі і ўсяляюцца туды, а безкарысьлівая старая застаецца дажываць свайго веку ў засьмечанай радыёнуклідамі вёсцы.

Вось дайшла чарга й да буфэту Вярхоўнага Савету. Але напачатку перапрашаю чытачоў за не зусім дакладную інфармацыю, пададзеную мной у мінулым нумары газэты. Справа ў тым, што перад былым будынкам ЦК КПБ няма болей пастамэнтаў ад аграмадных бюстаў клясыкаў перадавога вучэньня. Зь імі я здалёк зблытаў вялізныя гаршчкі зь кветкамі. Збезгалоўленыя пастамэнты сапраўды засталіся перад домам, але пэнсіянэры прыносілі і клалі на іх кветкі. Тады пастамэнты прыбралі, а на тым месцы пасадзілі кветкі. Насіць кветкі да кветак адразу страціла сэнс.

Але вось і сам гмах. Ці мог сюды раней трапіць радавы камуніст? Не, не мог! (Гэта я не пра сябе, а наогул...) Уваходзіш, азіраешся: натуральная рэйхсканцэлярыя. Даўгія калідоры, вялізныя пакоі, празваныя некаторымі з дэпутатаў Вярхоўнага Савету, які цяпер тут месьціцца, «вальерамі». Былы партыйны гмах амаль квадратны ў пэрымэтры, унутры якога вялікі падворак. Ня ведаю, як было ў цэркоўныя часы, але сёньня паўдавальны буфэт выглядае вельмі звычайна: сасіскі, гарэлка (праўда, упершыню мной бачаная) «Белая Русь» па 140 зь нечым рублёў і нейкае надта ж дарагое сала па цане 171 рубель за кіль. Піць і закусваць я ня стаў, а толькі зьеў сасіскі ды запіў іх кэфірам. Па калідорах паўсюдна сноўдалі маляры, часу на рамонт у іх хапае, наш ВС зрабіў паміж сэсіямі амаль паўгадавы перапынак.

На вуліцах паўсюдна адбываецца гандаль бананамі: 145, 120, нават 100 рублёў. Свабодна прадаюцца шампіньёны і ківі. Зроблены першы крок наперад ад сацыялістычнага харчовага рынку, на якім звычайная цыбуліна рабілася нібы заморскай гароднінай.

**С. АСТРАВЕЦ,**
**Менск — Горадня.**

 

